# ПАД СЬЦЯГАМ ЛЕНІНА

# МЫ ПЕРАМОЖАМ

Сёмую гадавіну са дня сьмерці вялікага правадыра і організатара комуністычнае партыі і сусьветнага пролетарыяту—Уладзімера Ільліча Леніна мы адзначаем вялікім уздымам соцыялістычнага будаўніцтва, уздымам творчых сіл пролетарыяту і працоўных мас СССР, якія, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, на аснове яе генэральнай лініі, ажыцьцяўляюць ідэі Леніна, ператвараючы Расію нэпманскую ў Расію соцыялістычную, пасьпяхова выконваючы плян вялікіх работ—пяцігодку ў чатыры гады.

За першыя два гады пяцігодкі мы дасягнулі вялікіх вынікаў у справе індустрыялізацыі краіны, якія падвялі базу і забясьпечылі магчымасьць перабудовы сельскай гаспадаркі на соцыялістычны лад, яе колектывізацыі і ліквідацыі апошняе апоры капіталізму ў вёсцы—кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі. У той час, як капіталістычны сьвет, ахоплены нябывалым у гісторыі чалавецтва крызісам, перажывае упадак—мы падвялі моцную экономічную базу пад трэці, вырашаючы год пяцігодкі, год заканчэньня пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі.

Шпаркі рост соцыялізму ў нашай краіне і развал капіталізму па ўсім сьвеце выклікаюць шалёнае супраціўленьне клясавых ворагаў як унутры СССР, так і па-за межамі яго. Прыкрываючыся пацыфісцкай балбатнёю аб міры і разброеньні, яны вядуць шалёную падрыхтоўку да нападу на СССР. Процэс „Прампартыі" выкрыў усю мэханіку інтэрвэнцкіх, анты-савецкіх плянаў.

Дасягненьні комуністычнае партыі на фронце індустрыялізацыі краіны, колектывізацыі сельскай гаспадаркі і нацыянальна-культурнага будаўніцтва, ёсьць вынік бязьлітаснай барацьбы з клясавым ворагам, барацьбы супроць атак на генэральную лінію партыі з боку правых—агентуры кулака, „левых" фразёраў—рэцыдывістых контр-рэволюцыйнага троцкізму, нацыянал-дэмократаў,—агэнтаў бела-польскага фашызму і беспрынцыпнага права-„лявацкага" блёку.

Ленінскі комсамол пад кіраўніцтвам партыі змагаўся ў першых шэрагах рабочае клясы за выкананьне запаветаў Леніна, за генэральную лінію партыі. 84,7 проц. комсамольцаў знаходзіцца ў шэрагах ударніцкага руху, 755 комсамольцаў актыўна працуюць у колгасах, 1.000 комсамольцаў мобілізавана на ліквідацыю прарыву ў Данбас, 2000 комсамольцаў мобілізавана на лесазагатоўкі, 100 комсамольцаў—на ліквідацыю няпісьменнасьці і іншыя вучасткі соц. будаўніцтва.

Ленінскі комсамол з гонарам апраўдаў пачэсную назву—Ленінскага: на…сіў руйнуючы ўдар па ўсіх, хто імкнуўся сьцягнуць комсамол з правільнай ленінскай лініі, па-баявому даў адпор наскокам „левых" (Шацкіну, …эну), паклёпу правых (Бутыркін, …лешаў) і, як найдзены дапаможнік партыі, па-бальшавіцку змагаўся за ажыцьцяўленьне яе генэральнай лініі.

X-ы Усебеларускі зьезд Ленінскага комсамолу мобілізаваў увагу комсамолу на далейшае разгортваньне бязьлітаснай барацьбы з усякімі адхіленьнямі ад генэральнай лініі партыі, супроць правага опортунізму, як галоўнай небясьпекі, „левага" контр-рэволюцыйнага троцкізму, бяспрынцыпнага права-„лявацкага" блёку. прымірэнцтва да іх, супроць нацыянал-опортунізму, беларускага нацыянал-дэмократызму, шовінізмаў рознага колеру і асабліва вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму як галоўнай небясьпекі.

Зьезд мобілізаваў увагу організацыі на разгортваньне баявых тэмпаў па выкананьню вышынямі трэцяга, рашаючага году пяцігодкі, на пасьпяховае заканчэньне фундаманту соцыялістычнай экономікі, на яшчэ большае разгортваньне ўдарніцтва на прадпрыемствах, яшчэ большае разгортваньне работы суцэльнай колектывізацыі сельскай гаспадаркі, на большае разгортваньне работы па ўдзелу ў будаўніцтве пролетарскай культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу, на ўзмацненьне абароназдольнасьці краіны.

У ленінскія дні комсамол, як ніколі, павінен паказаць узоры ударных бальшавіцкіх тэмпаў у рабоце на вытворчасьці, у калгасах; павінен ушанаваць памяць свайго правадыра і настаўніка Ільіча, організацыяй новых ударных, скразных, плянава-опэрацыйных брыгад, вярбоўкай у партыю, у комсамол, ударнікаў-рабочых, батракоў, колгасьнікаў. У ленінскія дні комсамол павінен паказаць размах падрыхтоўкі да другой бальшавіцкай вясны, па разгортваньню ленінскага заклiку бядняцка-серадняцкіх мас у колгасы, павінен дабіцца, каб пастаўленая ЦК КП(б)Б задача ахопу колгасамі ў 1931 годзе 45 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак была выканана. Гэта задача вынікае з таго, што к канцу пяцігодкі БССР у асноўным павінна закончыць процэс колектывізацыі. Ленінскі заклік, у выніку росту актыўнасьці бядняцка-серадняцкіх мас, ёсьць удар па права-„лявацкіх" хныканьнях аб зьніжэньні актыўнасьці мас, ёсьць „масавы паход за колектывізацыю, прасякнуты глыбокім палітычным зьместам"—аб гэтым павінен памятаць кожны комсамолец.

Усякія опортуністычныя спробы зьменшыць заданьні і працягнуць тэрміны выкананьня іх павінны нанесьці самы жорсткі і руйнуючы адпор.

Пад сьцягам Леніна, у бязьлітаснай барацьбе супроць права-опортуністычнай стаўкі на самацёк, супроць усялякіх рэцыдываў „левых" загібаў, захоўваючы прынцып добраахвотнасьці ў колгасным руху, пры ўсё ўзрастаючай актыўнасьці колгасьнікаў, пашыраючы колектывізацыю, ліквідуючы кулацтва як клясу на базе суцэльнай колектывізацыі, пролетарыят, апіраючыся на колгасьнікаў і беднату, у саюзе з серадняцтвам, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі закончыць у 3-м годзе пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі. На гэтым адказьнейшым фронце Ленінскі комсамол павінен быць у першых шэрагах.

> „Калі Расія пакрыецца густою сеткай электрычных станцый і магутных абсталяваньняў, дык наша комуністычнае гаспадарчае будаўніцтва стане ўзорным для будучай соцыялістычнай Эўропы і Азіі"
>
> **ЛЕНІН**


ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА

№ 17 (1286) | СЕРАДА, 21-га студзеня 1931 г.




## Пад кіраўніцтвам партыі Леніна, у непрымірымай барацьбе на два фронты, перамагаючы супраціўленьне клясавага ворага, мы ідзем уперад па шляху, вызначаным Ільлічом



